*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# Наша Слова

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 18 (282) | 30 красавіка 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў




## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПРАВЕЎ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЮ** з кіраўнікамі творчых саюзаў, установаў і арганізацый адпаведнага профілю. Шмат пытанняў перад ім паставілі работнікі культуры. У асноўным на ўсе пытанні адказ быў адзін: без увагі дзяржавы культура не застанецца. Праўда, на сённяшні дзень запазычанасць рэспубліканскага бюджэту работнікам культуры склала 57 млрд.рублёў.

○ ***НА КАНФЕРЭНЦЫІ МІЖПАРЛАМЕНЦКАГА САЮЗА ПА ПРАБЛЕМЕ НАСТУПСТВАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ ВЫСТУПІЎ*** *Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі, прычым выступіў на беларускай мове, якую ўпершыню пачулі прадстаўнікі 132 дзяржаў. Пара б і дома на сесіях Вярхоўнага Савета гаварыць па-беларуску!*

○ **УДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ІНФАРМАЦЫЯ**, што ўпершыню за некалькі гадоў у прамысловай вытворчасці нашай краіны намеціўся рост. Так, у сакавіку ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года аб'ём прадукцыі ў супастаўных цэнах павялічыўся на 4,5 працэнта. Хочацца верыць, што гэта сапраўды так.

○ ***У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МАСТАЦКАЙ ГАЛЕРЭІ АДБЫЛАСЯ АФІЦЫЙНАЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НОВАЙ АКАДЭМІІ*** — *Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (БелАВМ). Узначаліў новую акадэмію жывапісец Ф.Янушкевіч.*

○ **ПАІНІЦЫЯТЫВЕ ГАРАДОЦКАГА РК ПРАФСАЮЗАЎ РАБОТНІКАЎ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ, РАЁННАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ** ў раёне прайшоў агляд беларускай песні пад дэвізам «З песняй жыве народ!» 14 педагагічных калектываў прынялі ўдзел у аглядзе, дзе былі выкананы абрадавыя, народныя і сучасныя песні.

○ ***МАЛАДЗЁЖНАЙ ГАЗЕЦЕ «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА» СПОЎНІЛАСЯ 75 ГАДОЎ З ДНЯ ВЫХАДУ Ў СВЕТ ЯЕ ПЕРШАГА НУМАРА.*** *Віншуем і надалей жадаем плённай працы на ніве беларушчыны.*

○ **ПАВОДЛЕ ДАДЗЕНЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВА ААН У БЕЛАРУСІ ЦЯПЕР У НАШАЙ КРАІНЕ ЗАРЭГІСТРАВАНА БОЛЬШ ЗА 1800 БЕЖАНЦАЎ.** Больш за ўсё спадабалася Беларусь грамадзянам з Расіі. Толькі ў 1994 годзе адтуль у нашу краіну прыбыло каля 1100 чалавек.

○ Канфедэрацыя журналісцкіх саюзаў Расіі скіравала ліст Прэзідэнту Беларусі, у якім выказана шкадаванне з прычыны абмежавання ў Беларусі свабоды слова і звальнення шэрагу кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. «Многія журналісты, — адзначана ў лісце, — працуюць у атмасферы жаху і адчуваюць прафесійны дыскамфорт». Ліст падпісаны старшынём Канфедэрацыі Эдуардам Сагалаевым.

○ ***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!*** *Пачалася падпіска на рэспубліканскія выданні на другое паўгоддзе 1996 года. На «Наша слова» можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні.*

# Створана «Супольнасць»

Сёння ў адным толькі Менску афіцыйна зарэгістравана каля 800 грамадскіх арганізацый і ўдвая болей — па ўсёй краіне. Гэта — сведчанне паступовага разумення людзьмі важнасці грамадскай дзейнасці, якая робіць асобу менш залежнай ад рашэнняў улады.

У Беларусі так званы «трэці» — грамадскі сектар (пасля дзяржаўнага і прыватнага) прайшоў у сваім развіцці некалькі этапаў. На першым адбывалася патаемнае ці адкрытае супрацьстаянне таталітарнай, антыбеларускай уладзе, і легальныя грамадскія ініцыятывы мелі выгляд гістарычных, этнаграфічных ды іншых суполак. Другі характарызаваўся пераходам радыкальна настроенай часткі ўдзельнікаў нацыянальных суполак да палітычнай дзейнасці, якая падавалася ім найбольш эфектыўнай дзеля хуткай змены сітуацыі ў краіне.

Цяперашні, трэці этап стаў часам аднаўлення суполак. Бо людзі пачалі разумець: грунтоўныя пераўтварэнні нашага грамадства магчымыя толькі пасля таго, як кожная яго група зможа эфектыўна прадстаўляць сябе і абараняць свае інтарэсы.

Адной з падзеяў гэтага новага этапу стала стварэнне ў Менску Цэнтра адкрытага грамадства «Супольнасць», галоўная задача якога — спрыянне ўтварэнню ў краіне сеткі грамадскіх арганізацый розных кірункаў. Наяўнасць мноства наўрадавых арганізацый — прыкмета паўстання поўнавартаснай грамадзянскай супольнасці, якая замацуе аўтаномію беларускіх арганізацый, зробіць іх жыццяздольнымі і перспектыўнымі, здольнымі ўплываць на сітуацыю ў краіне і захаваць яе незалежнасць — лічаць стваральнікі «Супольнасці».

*(Заканчэнне на с.2.)*

# *У Фларэнцыі, дзе жыў Агінскі*

На пачатку красавіка дэлегацыя беларускай грамадскасці знаходзілася з візітам у Італіі па запрашэнні мэра горада Фларэнцыі. Яе ўзначальваў старшыня Камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Беларусі Пётр Краўчанка. Па выніках паездкі 12 красавіка ў прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета адбылася прэс-канферэнцыя п.Краўчанкі і пасла Італіі ў Беларусі п.Джанлука Берцінета.

Галоўнай мэтай паездкі было ўшанаванне памяці выдатнага сына беларускай зямлі, кампазітара, грамадскага і палітычнага дзеяча XVIII—XIX ст. Міхала Клеафаса Агінскага. Як вядома, апошнія дзесяцігоддзе свайго жыцця Агінскі правёў у Фларэнцыі, дзе і памёр у 1833 г. Наш вялікі зямляк пахаваны ў галоўным саборы горада базыліцы Санта-Крочэ, у пантэоне самых славутых асоб Італіі побач з Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы і Галілеа Галілеем. Як сказаў Пётр Краўчанка, ідэя ўшанавання памяці Агінскага з'явілася яшчэ тры гады таму, у яго бытнасць міністрам замежных справаў Беларусі. За гэты час, па архіўных матэрыялах, удалося даведацца, у якім дакладна доме жыў Міхал Клеафас Агінскі, а італьянскі бок дазволіў усталяваць шыльду, што яшчэ раз падкрэслівае зычлівыя адносіны італьянцаў да беларусаў. Рэч у тым, што Фларэнцыя з'яўляецца горадам-помнікам і дазвол на адкрыццё новых памятных знакаў даецца мэрыяй вельмі рэдка.

Шыльда работы маладога таленавітага менскага скульптара Валяр'яна Янушкевіча была ўрачыста адкрыта ў прысутнасці беларускай дэлегацыі, а таксама мэра Фларэнцыі, пасла Італіі ў Беларусі п.Берцінета і генеральнага консула Беларусі ў Італіі п.Шыловіча.

Грошы на памятную дошку былі ахвяраваны землякамі Міхала Клеафаса Агінскага — працоўнымі калектывамі Смаргонскага і Маладзечанскага раёнаў. У гонар беларусаў гарадской мэрыяй Фларэнцыі быў наладжаны афіцыйны прыём.

Пан Берцінета адзначыў, што гэтая імпрэза паслужыць пашырэнню ведаў пра Беларусь сярод простых італьянцаў. Студэнты фларэнцыйскай акадэміі музыкі ўжо падрыхтавалі праграму твораў кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага і хочуць прыехаць з ёй у Менск. Добра было б, сказаў пасол, і беларускім студэнтам наведаць Фларэнцыю.

У канцы прэс-канферэнцыі Пётр Краўчанка паведаміў журналістам пра планы на будучыню. Ёсць намер ушанаваць памяць паэта Міколы Гусоўскага памятнай дошкай на мурах універсітэта г.Балоньі, дзе ён вучыўся ў 20-х гадах XVI ст. Плануецца таксама ўсталяваць мемарыяльны знак у капліцы рымскага сабора св.Клемента, дзе пахаваны вялікія славянскія асветнікі святыя браты Кірыл і Мятод. У гэтай капліцы знаходзяцца дошкі ад усіх славянскіх народаў, не было толькі беларускай. Гэта ненармальная сітуацыя павінна быць выпраўлена, і беларусамі будзе аддадзена даніна павагі людзям, якія неслі на нашыя землі хрысціянскую веру і пакінулі нам у спадчыну славянскі правапіс.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Падпалы сухастою — злачынства!

Пасля знікнення снегавога покрыва і ўсталявання цёплага надвор'я ў рэспубліцы пачынаецца паўсюднае выпальванне сухой расліннасці. Гэтая з'ява набыла настолькі шырокі ды й рэгулярны характар, што стала мацнейшым разбуральным фактарам, які ўздзейнічае на навакольнае асяроддзе. Сярод насельніцтва пануе памылковая думка, што выпальванне сухой расліннасці спрыяе яе лепшаму росту. Між тым, у выніку палаў адбываецца дэградацыя прыроды, знішчаецца расліннасць, збядняецца яе відавы склад, гінуць шматлікія від жывёлаў, птушак і насякомых, перапыняюцца працэсы глебаўтварэння, пачынаецца эрозія, забруджваецца паветра. У шматлікіх выпадках менавіта палы з'яўляюцца прычынай пажараў у лясах і на тарфяніках.

Вельмі часта падпальваннем займаюцца падлеткі, але таксама і недасведчаныя дарослыя. Практычна ўся тэрыторыя рэспублікі пакрыта слядамі гэтай разбуральнай дзейнасці. Даходзіць ужо да недарэчнасці, калі траву выпальваюць на гарадскіх газонах, у скверах і парках. Агонь не мінае і тэрыторый, якія маюць асобы ахоўны статус.

Трэба ведаць, што палы на тэрыторыі рэспублікі забаронены і з'яўляюцца дзеяннем, што адміністрацыйна ды крымінальна караецца.

**Экалагічная станцыя «Ольса», Бабруйскі гарадскі савет Таварыства аховы прыроды.**

*Творчасць нашых чытачоў*

# Бальшавікі

Я помню той праклятьі час,
Калі яны знішчалі нас.

Былі зямелькі ў нас загоны,
Ды бальшавіцкія вароны,
Як хмары, знекуль прыляцелі —
Зямлю забралі, ўсё паелі.
Былі ў нас пуні і такі —
Забралі й іх бальшавікі.
Былі ў нас брычкі і вазы,
А засталося паўказы.
Былі ў нас коні і кароўкі —
Бальшавічкі іх на вяроўкі
Пад мат расійскі начаплялі
І як у бездань утапілі.
Дык потым тры-чатыры леты
Па ўзлессі конскія шкілеты
Цягалі шэрыя ваўкі —
Ім харч далі бальшавікі.
А тых, хто лепш за ўсіх рабіў,
Пагналі нелюдзі ў Сібір,
Каб там астылі ад работы...
О, людажэрцы-жываглоты!

Цяпер ізноў нас бэсцяць, крыўдзяць,
І мову нашу ненавідзяць,
Праз рэферэндум недарэчны
Стапталі сымбаль наш спрадвечны,
І нашу памяць здратавалі,
І нам у душы наплявалі.

Калі народ наш зразумее,
Што калі путы разарве —
Дык ён і сам зажыць сумее
Так, як Еўропа ўся жыве?

**Ч.МАЦКЕВІЧ.**
м.Радашкавічы
Маладзечанскага раёна.

— А я ў мамы-матрошкі суверэнная трошкі.



**Малюнак Алеся КАРПОВІЧА.**

*Братэрства*

# Палессем зачараваны

Мікіта Ілліч Талстой — праўнук Льва Мікалаевіча Талстога — адзін з выдатных вучоных-славістаў нашага часу, акадэмік Расійскай акадэміі навук, член Аўстрыйскай і Македонскай акадэмій навук, прафесар Маскоўскага універсітэта. Ён нарадзіўся 15 красавіка 1923 года ў югаслаўскім горадзе Вршац. Ягоны бацька Ілля Ілліч пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі разам з братам пераехаў у Югаславію. Там ён ажаніўся з Вольгай Міхайлаўнай, таксама эмігранткай з Расіі. Пасля таго, як у іх нарадзіўся сын Мікіта, сям'я пераехала ў Бялград, дзе Мікіта Ілліч у 1941 г. скончыў руска-сербскую гімназію. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі Ілля Ілліч, каб пракарміць сям'ю, рамантаваў абутак. Гэтаму рамяству навучыў яго дзед — Леў Мікалаевіч. Але зарабляў ён мала. Тады Мікіта Ілліч стаў чорнарабочым — адбудоўваў разбураныя дамы. З 1941 г. Мікіта Ілліч удзельнічае ў народна-вызваленчым (партызанскім) руху ў Югаславіі супраць акупантаў. Ён становіцца членам арганізацыі сербскай моладзі. Ён уступае ў атрад, які ўтрымліваў пераправу праз раку Цісу да прыходу Савецкай Арміі. У кастрычніку 1944 г. Мікіта Ілліч Талстой добраахвотна ўступіў у Савецкую Армію, у радах якой змагаўся на тэрыторыі Югаславіі, Венгрыі, Аўстрыі.

Пасля заканчэння службы ў арміі ў верасні 1945 г. Мікіта Ілліч пераязджае ў Маскву, куды да таго часу вярнуліся яго бацькі.

У Маскве ён паступае ў універсітэт, а пасля яго заканчэння ў 1950 г. — у аспірантуру. У 1954 г. Мікіта Ілліч абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1972 г. — доктарскую дысертацыю. З 1954 года ён працуе навуковым супрацоўнікам у Інстытуце славяназнаўства Акадэміі навук СССР і з 1977 года ён — кіраўнік групы этналінгвістыкі і славянства старажытнасцей ( з 1979 г. група этналінгвістыкі і фалькълору), а пасля 1981 г. — загадчык сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР.

Мікіта Ілліч Талстой з'яўляецца аўтарам каля 300 навуковых прац. Ён даследуе гісторыю славянскіх літаратурных моў, дыялекталогію, тапаніміку, этнаграфію, традыцыйную духоўную культуру. Навуковая і грамадская дзейнасць М.І.Талстога цесна звязана з Беларуссю і ў першую чаргу з Палессем. У 1962—1965 і 1974—1986 гг. ён узначальваў штогодняя, летнія, а часта таксама і зімнія экспедыцыі на Палессе. Экспедыцыі 1962—1965 гг. праводзіліся сумесна з Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Асноўная іх мэта — вывучэнне палескай народнай лексікі. Экспедыцыі 1974—1986 гадоў даследавалі традыцыйную духоўную культуру, дзеля чаго былі распрацаваныя спецыяльныя праграмы. Асноўная мэта экспедыцый 1974—1986 гг. — сабраць матэрыял для складання этналінгвістычнага слоўніка «Славянские древности» (першы том выйшаў з друку ў 1995 г.) і Атласа духоўнай культуры Палесся, М.І.Талстым і яго калегамі ствараецца на «сумежжы» этнаграфіі і лінгвістыкі новая галіна навукі — этналінгвістыка.

У час экспедыцый 60—80-х гадоў, акрамя навуковага кіраўніцтва, М.І.Талстой непасрэдна вывучаў народныя гаворкі і духоўную культуру ў палескіх вёсках, дзеля чаго наведаў больш за 50 паселішчаў Брэсцкай і Гомельскай абласцей.

Чым захапіла Мікіту Ілліча Талстога Палессе?

Усе краі, дзе жывуць славянскія народы, можна ўмоўна падзяліць на «архаічныя» і «неархаічныя». У неархаічных абласцях здаўна адбываліся інтэнсіўныя кантакты славян з іншымі народамі. Гэта спрыяла больш хуткім зменам у мове і культуры, адмiранню старога і з'яўленню новага. Дарэчы, у неархаічных зонах узніклі асяродкі, якія сталі своеасаблівымі цэнтрамі пры фарміраванні асобных славянскіх этнасаў. Так, прабеларускі асяродак узнік недзе паміж Слуцкам і Гомелем (да прыкладу, праўкраінскі — у правабярэжным прыдняпроўскім украінскім лесастэпе, прарасійскі — дзесьці на верхняй Дзясне). Як бачым, гэтыя гнёзды знаходзяцца за межамі Палесся, але прымыкаюць да яго.

Палессе ж адносіцца да архаічных славянскіх зон. У народных гаворках і асабліва ў традыцыйнай духоўнай культуры Палесся, у адрозненне ад шэрагу іншых абласцей, у першую чаргу суседніх, захавалася шмат чаго з праславянскага часу, калі славяне былі яшчэ мала дыферэнцыраваны. Таму, глыбока даследаваўшы асаблівасці духоўнай культуры Палесся, магчыма выкарыстоўваць яе як нейкі эталон пры рэканструкцыі светапогляду старажытных славян.

Вялікая заслуга М.І.Талстога таксама ў папулярызацыі ў Еўропе і Расіі скарбаў народнай мовы і традыцыйнай культуры Палесся.

**Фёдар КЛІМЧУК.**

*У суседзяў*

# За праўду пра Сернаводск забіваюць і «сваіх»

Яшчэ адзін журналіст забіты ў Чачні. На гэты раз зноў жанчына — карэспандэнтка расійскай «Общей газеты» Надзея Чайкова. Крыху раней яе, западозрыўшы ў шпіянажы, затрымлівалі чачэнскія апалчэнцы. Але, высветліўшы праз свае каналы выведкі яе асобу, урэшце адпусцілі. Тым не менш падобна на тое, лічаць расійскія журналісты, што на яе тачылі зуб «свае» вайскоўцы.

Генералітэт быў раззлаваны чэсным рэпартажам Надзеі Чайковай з сяла Першамайскага, дзе расійскія вайскоўцы бязлітасна бамбілі і абстрэльвалі заложнікаў. Затым яна паведаміла пра знішчэнне мірнага насельніцтва, у тым ліку расійскамоўнага, у Сернаводску. Апошні свой рэпартаж яна перадала адтуль.

Яна яшчэ хацела расказаць пра знішчэнне карнікамі сяла Самашкі. І раптам прапала. Яе знайшлі мясцовыя жыхары, якія з даверам і павагай адносіліся да гэтай расійскай журналісткі. Па дадзеных судмедэкспертызы, жанчыну спачатку жорстка пабілі, потым паставілі на калені і застрэлілі з пісталета «макараў». Стралялі ў патыліцу. Надзея Чайкова была перакананая, што спыніць тую жудасную бойню, якую чыніць расійская ваеншчына ў Чачні, можна толькі тады, калі настойліва, не адступаючыся, расказваць пра гэта ўсяму свету, а ў першую чаргу самім расійцам, усю праўду. А для гэтага, казала яна, трэба бачыць, што творыць у Чачні «міралюбцы», уласнымі вачыма. Праўда аказалася непажаданай. Без маці застаўся 6-гадовы хлопчык Дзяніс. Яшчэ адна ахвяра на крывавы алтар імперскасці.

**Ул.Ас.**

# Даты і падзеі ў траўні

**1 траўня** — 90 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Бергман, гісторыка, публіцыста, аўтара кнігі пра Браніслава Тарашкевіча.
— 65 гадоў з дня нараджэння прафесара Алега Лойкі, вядомага паэта, крытыка і літаратуразнаўца.
— 60 гадоў з дня нараджэння Л.Р.Главацкай, майстра плыцення мастацкіх вырабаў з саломкі.
— 110 гадоў таму адбылося выступленне чыкагскіх рабочых.

**2 траўня** — 65 гадоў таму ў Менску пачала працаваць кандытарская фабрыка «Камунарка».

**3 траўня** — 225 гадоў таму ў Гародні нарадзіўся Аўгуст Бекю, адзін з першых беларускіх дактароў медыцынскіх навук, першы прафесар кафедры фізіялогіі медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта, актыўны прапагандыст прышчэпак воспы, аўтар манаграфіі «Пра вакцыну, або так званую каровічую воспу» (1803 год).
— 205 гадоў таму быў прыняты Закон аб урадзе, які ў гістарычнай літаратуры называюць Канстытуцыяй Рэчы Паспалітай (3 мая 1791 года).

**4 траўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Пятра Рунца, беларускага пісьменніка.

**5 траўня** — 165 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Борзабагатага, доктара, паўстанцкага камісара Навагарадскага павета ў 1863 годзе, мемуарыста.
— 150 гадоў з дня нараджэння Генрыха Сянкевіча, вядомага польскага пісьменніка беларускага паходжання.
— 60 гадоў з дня нараджэння Васіля Якавенкі, беларускага пісьменніка і публіцыста.

**6 траўня** — 310 гадоў падпісання «Вечнага міру» — дагавору Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай.

**7 траўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Касмачова, беларускага мастака.
— 135 гадоў з дня нараджэння Рабіндраната Тагора, індыйскага пісьменніка і грамадскага дзеяча.

**8 траўня** — 545 гадоў таму памерла Барбара Радзівілішка, вялікая княгіня ВКЛ і каралева Польшчы.
— 145 гадоў таму ў часопісе «National Era» была надрукавана першая частка славутага рамана Гарыет Элізабет Бічэр-Стоу «Хаціна дзядзькі Тома».
— Дзень вызвалення нямецкага народа ад фашызму.

**9 траўня** — Дзень Перамогі.
— 85 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Ліхадзіеўскага, беларускага паэта, літаратуразнаўца і перакладчыка.
— 60 гадоў з дня нараджэння Віктара Шматава, беларускага мастака і мастацтвазнаўца.

**10 траўня** — 90 гадоў з дня нараджэння Алены Даніловіч, беларускай актрысы.
— 65 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Гаўрусёва, беларускага паэта.

**11 траўня** — 125 гадоў таму ў Менску былі заснаваныя чыгуначныя майстэрні (цяпер вагонарамонтны завод).

**13 траўня** — 55 гадоў з дня нараджэння Анатоля Сербантовіча, беларускага паэта.

**14 траўня** — 225 гадоў таму ў Ньютаўне (Уэльс) нарадзіўся Роберт Оўэн, англійскі сацыяліст-утапіст.

**15 траўня** — 80 гадоў з дня нараджэння Ніны Тарас, беларускай паэтэсы.
— 60 гадоў з дня нараджэння Барыса Сачанкі, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца.

**16 траўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Васіля Віткі, беларускага паэта і пісьменніка.
— 75 гадоў з дня нараджэння М.Ф.Мельнікава, беларускага краязнаўца.

**18 траўня** — 52 гады таму было ўзята Монта-Касіна, умацаваны гітлераўцамі кляштар на аднайменнай гары ў Італіі. У той бітве з 11 па 18 траўня загінула шмат беларусаў-жаўнераў. У адным з сектараў «Cimitero Militare Polacco» пад праваслаўным крыжам пахаваны і Аркадзь Міклашэвіч, родны брат Ларысы Геніюш.
— пяць гадоў таму ў Вільні на могілках Роса адбылося перазахаванне праху Івана Луцкевіча, перавезенага з Польшчы.

**21 траўня** — 75 гадоў з дня нараджэння Андрэя Дзмітравіча Сахарава, навукоўца-фізіка, грамадскага дзеяча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру.
— 90 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Шынко, беларускай актрысы.

**22 траўня** — Мікола. Пра гэты дзень гаварылі: «Да Міколы няма вясны ніколі». Ды, відаць, сёлета згвалчаная (мы не можем ждать милостей от природы, взять их — наша задача) прырода «аддзячыць» нам чарговай неспадзянкай.

**23 траўня** — 360 гадоў таму Антон Сялява, полацкі архіепіскап скардзіўся, што ў Віцебску ўсе цэрквы — уніяцкія, а праваслаўны епіскап Сільвестр Косаў служыў «у шопе якойсь, на то прыгатовленой».

**24 траўня** — Дзень славянскага пісьменства і культуры. 145 гадоў таму балгары ўпершыню ў сваёй навейшай гісторыі адзначалі ў Плоўдзіве свята балгарскай асветы — у дзень вялікіх апекуноў — святых Кірылы і Мятода.

**25 траўня** —125 гадоў з дня нараджэння Ісака Сербава, вядомага этнографа і фалькларыста, аўтара дыярыуша «Паездка па Палессі 1912 года».

**26 траўня** — 70 гадоў з дня нараджэння Іллі Кургана, беларускага артыста радыё, вядомага дыктара, педагога.
— 70 гадоў таму было ўтворана творчае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў «Узвышша».

**28 траўня** — 160 гадоў з дня нараджэння Яна Карловіча, мовазнаўца, этнографа і фалькларыста.
— 115 гадоў з дня нараджэння Івана Луцкевіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэння, археолага, этнографа, грамадскага дзеяча.
— 125 гадоў таму была разгромлена Парыжская камуна.

**30 траўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Саннікава, беларускага рэжысёра, акцёра і педагога, народнага артыста Беларусі.
— 875 гадоў таму ўпершыню ў летапісных звестках згаданы Случак.
— 565 гадоў таму ў Руане спалілі Жанну д'Арк, якая ў 1429 годзе стала на чале вызвольнай вайны французскага народа супраць англічанаў і дамаглася пералому ў ваенных дзеяннях.

**У траўні** — 100 гадоў таму беларус Аляксандр Булатовіч у складзе місіі Расійскага Чырвонага Крыжа прыехаў у Адыс-Абебу. Ён быў ваенным кансультантам, рабіў здымкі і складаў геаграфічныя карты шмат якіх мясцовасцяў. Ягоная кніга пра афрыканскія экспедыцыі была ўганараваная сярэбраным медалём Расійскага геаграфічнага таварыства.
— 185 гадоў таму ў Белавежскай пушчы пачаўся вялікі лясны пажар, які патушылі толькі ў кастрычніку восеньскія дажджы.
— 165 гадоў таму Фелікс Кіневіч стаў на чале паўстанцкіх атрадаў Мазырскага павета. Было абвешчана дараванне сялянам зямлі і волі.

**Беларускае Адраджэнне**

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Камунікатыўная эканомнасць ці «забыццё» вобразнасці?

А.Патабня адрозніваў у слове знешнюю форму, г.зн. членападзельны гук, змест, які аб'ектывізуецца пры дапамозе гука, і ўнутраную форму, ці найбліжэйшае этымалагічнае значэнне слова, той спосаб, якім выражаецца змест. Знешняя форма непадзельная з унутранай, змяняецца разам з ёю, без яе перастае быць сама сабой, але тым не менш істотна ад яе адрозніваецца.

Для характарыстыкі знешняй формы слова, лаканічнага шляху развіцця вельмі важны ўлік наступстваў з'яў дэкарэляцыі, дыфузіі, аналогіі і спрошчання.

З'ява дэкарэляцыі ў старабеларускай мове часам закранала і марфалагічную прыналежнасць слова. Напрыклад, формы на -у(-ю-)чый, -а(-я-)чій не з'яўляюцца дзеепрыметнікамі цяперашняга часу ў сённяшнім нашым разуменні. Як зазначае Г.М.Міляйкоўская (Русский язык в школе, 1958, № 4), поўныя дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу нават у старажытнарускай мове ўтвараліся ад вельмі нямногіх асноў дзеяслова, былі няўстойлівыя, а таму пераходзілі амаль адразу ў прыметнікі (ползучий, летучий і г.д.). Апошняя мела асаблівае распаўсюджванне ў старабеларускай мове. Менавіта такія, на думку А.Клышко (Полымя, 1964, № 7, с. 165), аддзеяслоўныя прыметнікі (а не дзеепрыметнікі!) увайшлі ў беларускую мову і сустракаюцца цяпер пераважна ва ўстойлівых выразах: *прапашчы чалавек, валачашчы сабака, калючы дрот, ляжачы камень* і інш. Магчыма, ужыванню некаторых з гэтых форм, такіх, як *стаячы, ляжачы*, спрыяе тое, што ў сучаснай мове іх як бы падмацоўваюць назоўнікі «стаяк», «ляжак», стварэецца падабенства з аднакаранёвымі прыметнікамі (*рыбак — рыбачы, прымак — прымачы*) (Полымя, 1964, № 7, с. 166.) Няцяжка заўважыць, што першая ступень дэкарэляцыі, набыўшы ўсе правы гістарычнай з'явы, з тых часоў захавалася ў беларускай мове і дала цікавыя словаўтваральныя вынікі.

Пад другую ступень дэкарэляцыі пераходных форм аддзеяслоўных прыметнікаў (субстантывацыя па тыпу *падарожны*), як мы бачым па «Лексісу» Л.Зізанія, падпалі нешматлікія словы: *стяжатель — набываючий, сретатель — заостряючий, наказатель — караючий*.

Але паколькі нашай мове формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану, асабліва субстантываваныя, не былі характэрныя (нават М.В.Ламаносаў дазваляў іх выкарыстоўваць толькі ў высокім стылі), таму ў старабеларускай мове яны выкарыстоўваліся толькі ў царкоўнаславянскім (беларускай рэдакцыі) пласце, якому, дарэчы, яны былі характэрныя значна ў меншай ступені, чым адпаведнаму ў старарускай. Такія формы адчувалі сябе ў мове, ва ўласна старабеларускай, мякка кажучы, нязручна.

Таму не выпадкова, што беларускім прыметнікам на **-уч-** звычайна адпавядаюць назоўнікі (*рашучы — рашучасць, скрыпучы — скрыпучасць, неўміручы — неўміручасць*). Гэта, відавочна, трэцяя ступень дэкарэляцыі дзеепрыметнікаў. Мова не прымала субстантываваных дзеепрыметнікаў. І як у выпадку з супінам і неазначальным ладам, што пераканаўча паказаў А.А.Патабня ў сваёй доктарскай дысертацыі «Из записок по русской грамматике», моўны механізм перакадзіраваў іх праз аддзеяслоўныя прыметнікі ў аддзеяслоўныя назоўнікі: *набываючый — набыццё; заостряючий — завастрэнне; караючий — пакаранне*.




Пад чатырма рознымі прозвішчамі друкаваў свае творы самы, бадай, значны партугальскі паэт нашага стагоддзя Фернанда Песоа (1888—1935). І кожная яго іпастась адлюстроўвала іншы, арыгінальны напрамак у сучаснай еўрапейскай паэзіі.

***Фернанда ПЕСОА***

* * *

Ружы з Адонісавых садоў,
Ружы люблю мімалётныя, Лідзія,
Што нараджаюцца ўдзень,
Днём жа і паміраюць.

Вечна жывуць пры святле яны, бо
З сонцам яны нарадзіліся — й звянуць,
Перш чым закончыць Апалон
Бачны свой бег штодзённы.

Зробім жа наша жыццё днём адным,
Лідзія, выкінем з памяці
Цемру, што да і пасля
Мігу кароткага нашага.

**ПАРТУГАЛЬСКАЕ МОРА**

Не вычарпаць тваю, о мора, соль,
Як слёзы Партугаліі ды боль.
Плылі мы... Колькі маці рыдала,
А колькі ў хвалях тых сыноў прапала,
Згібела нарачоных у журбе,
Каб Ты нам родным стала — й мы Табе!

Ці без ахвяр абыдземся? Ды не,
Калі наш дух дашчэнту не здрабнеў!
Каб да другога берага дабрацца,
Цярпенне патрабуецца ды праца.
Хоць прорваў шмат у мора ёсць ды ўцёсаў,
Але ж адбіты ў ім блакіт нябёсаў.

* * *

Калі хто захоча пасля маёй смерці
Стварыць мой жыццяпіс — гэта будзе
няцяжка.
Дзве даты галоўныя ёсць: калі нарадзіўся й
памёр.
Між імі — усе мае справы. І дні ўсе астатнія.

Мяне апісваць лёгка.
Глядзеў на свет, нібы апантаны.
Любіў усё любоўю далёка не
сентыментальнай.
Не меў нерэальных жаданняў, таму й ілюзій
не меў.
Слых мой быў дадаткам да зроку толькі.
Я ўцяміў, што ўсё на свеце сапраўднае,
а ўсе рэчы такія розныя;
Я ўцяміў гэта не розумам, а — вачыма.
Каб розумам спасцігаў, дык пэўных рэчаў
зусім бы я не адрозніў.
Аднойчы мяне пацягнула на сон, нібы тое
дзіця.
Я вочы заплюшчыў і заснуў.
Апроч таго, быў я адзіным паэтам Прыроды.

**Пераклад з партугальскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**
*(Ганарар — у фонд рэдакцыі.)*

# Шчырая беларускасць майстра

## Івану Чыгрыну — 65 гадоў

Памятаю яго пачаткоўцам у навуцы — аспірантам Інстытута літаратуры АН Беларусі. Тое, што ён, «заходнік», ад сахі і касы, ад закінутай у бары вёсачкі ды нішчымнай зацэркі, мусіў настойліва працярэбліваца «з цемры да святла» праз складанасці і перашкоды, рабіла яго ў маіх вачах блізкім і зразумелым. Зразумелым быў і яго характар: стрыманы, бескампрамісны, незалежны, крыху скрытны. Асноўнай рысай аднак з'яўлялася сціпласць. Разуменне таго, што Іван Пятровіч чалавек па-сапраўднаму таленавіты і працавіты, прыйшло да мяне пазней, калі беларускае літаратуразнаўства пачало папаўняцца яго кнігамі: «Станаўленне беларускай прозы», 1971; «Проза «Маладняка», 1985; «Крокі. Проза «Узвышша», 1989; «Рэальнае і магчымае», 1991; і, нарэшце, «Паміж былым і будучым», 1994 — прыкметнае ў навуцы слова пра Максіма Гарэцкага.

Нядаўна Іван Чыгрын стаў вядомы як паэт. У 1994 годзе ў свет выйшаў зборнік яго паэзіі «Капеж», у якім ёсць такія цудоўныя радкі:

*Вершы пішуцца прамянямі сонца*
*на лістах,*
*назва якім — палеткі,*
*сенажаці,*
*лясы,*
*Калі ты не здатны*
*рассоўваць хмары над зямлёю,*
*Ніякі ты не паэт.*

Для мастацкай палітры паэта Чыгрына характэрна сузіральнасць, філасафічнасць, роздум над прызначэннем чалавека. Аднак сённяшні нядобры час выклікае ў яго і такія злабадзённыя радкі:

*Чужая мова, як іржа, —*
*Нас дакапала без нажа.*
*Чужы закон, што згубны звон,*
*Адно вызвоньвае нам — скон!*
*Чужая воля правіць баль.*
*Чужая праўда красіць даль.*
*І неба іх. І цар у іх.*
*І служба ім усіх святых...*

Не магу не сказаць яшчэ пра адну рысу майго земляка, а менавіта, пра яго шчырую беларускасць. Гэта яна абумовіла магістральны напрамак яго жыццёвай дарогі і яго творчыя намаганні. Яна зрабіла яго ўпартым, цярплівым і самабытным чалавекам.

**Ірына КРЭНЬ.**

***Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»***

***Валянціна ВЫХОТА***

# Коласавы зернеткі

*Прычын імкнення, парывання*
*На новым **грунце** сесці стала,*
*І чым жыла душа Міхала.*

**Grund m** 1. зямля; (der) Grund und Boden земля, земельное владение; auf eigenem Grund und Boden leben жить на своей земле (GDRM).

*Пара падумаць, небажаткі,*
*Як жыць без бацькі і без маткі,*
*Бо іх жыццё — не вечна ў свеце.*
*Вось тут глуздом паварушэце!*
*Дык трэба **грунт** мець пад нагамі,*
*Каб не бадзяцца батракамі.*
*Які ж то **грунт**? Зямля, навука,*
*Але не панская прынука.*

**Грунт** 3. (перан.) Тое галоўнае, на чым асноўваецца што-н. (ТСБМ). Grund m 2. keinen Grund unter den Füßen haben перен. (не чувствовать) не иметь почвы под ногами (GDRW).

*Але ўся важнасць гэтых сесій*
*І іх **грунтоўныя** асновы*
*Складаліс з панскае размовы,*

**Грунтоўны.** Трывалы, глыбокі. Які характарызуецца сур'ёзнасцю, глыбінёй, падрабязнасцю; абгрунтаваны чым-н. (ТСБМ); gründlich tief eindringend, bis zum Grund gehend; eine gründliche Erörterung (WDG); wir haben alles gründlich besprochen. Мы все это основательно обсудили (DRLW).

Гісторыя слова: «Наша слова», № 17 (229), 1995 г.

*— Ну, засцілайце стол, мужчыны! —*
*І стол той **гуртам** прыбіраюць.*
*Праз плот чаўнок **гуртом** куляюць,*
*На ніз паволі прапіхаюць.*

**Гурт.** 3. у знач. прысл. гуртам. Сумесна, групай (ТСБМ).

**Гуртам.** 1. вместе, сообща (БРС); вместе zusammen; gemeinschaftlich; gemeinsam (РНС).

*Другія голас далучалі,*
*І **гуртам** зноў яны спявалі.*

zusammen (Adj.) zusammen singen (WDG).

**Гуртам** 'разам'. Ням. zusammen 2. (miteinander, gemeinsam): wir lesen zusammen (WW); zusammen (Adj.) er hat mit seiner Frau zusammen das Buch geschrieben (WDG).

Гісторыя: «Наша слова», № 17 (229), 1995 г.

*На дрэве покаўка таўшчала,*
*Ў сабе лісточак **далікатны**,*
*Пахучы, свежанькі, прыўдатны*
*На добрым сонцы гадавала.*

У беларускай мове: **далікатны** 3. Кволы, тонкі...

Кволы. кволы пялёстак 'нежный лепесток' (БРС); zart (Adj.) ein Zweig mit zarten Blütenknospen (WDG); нежный 1. zart (РНС). Гісторыя слоў *далікатны* і delikat у «Нашым слове», № 18 (230), 1995 г.

***Выставы***

# У Магілёве «Сцежкамі Янкі Купалы»

Сваю выставу мастацкай фатаграфіі менскі фотамайстар Альберт Цэхановіч назваў «Сцежкамі Янкі Купалы». Яна размясцілася ў Магілёўскім гарадскім Доме культуры. Экспанаваліся 32 творы А.Цэхановіча. Аўтар цікава здолеў перадаць сваё ўспрыманне беларускіх краявідаў, якія калісьці натхнялі народнага паэта Беларусі. З чытаннем твораў Янкі Купалы на адкрыцці выставы выступіў магілёўскі рэжысёр, заслужаны дзеяч культуры РБ, сябра ТБМ Валянцін Ермаловіч, родны брат славутага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча.

Пад час адкрыцця выставы А.Цэхановіч расказаў аб сваіх уражаннях ад сустрэч са старымі людзьмі, якія яшчэ памяталі «дзядзьку Янку» і паведамілі яму малавядомыя звесткі з біяграфіі вялікага земляка. Так, хутар Акопы, дзе нейкі час жыла сям'я паэта, быў увогуле абмінуты афіцыйнымі савецкімі біёграфамі. І вось ён паўстае ў творах фотамайстра. А.Цэхановіч прадставіў таксама толькі што выдадзены турыстычны даведнік М.Чырскага «Купалавым гасцінцам» (Менск, «БЕЛАПАН», 1996 г.) па мясцінах, дзе калісьці жыў беларускі паэт. У яго ўвайшлі і некалькі работ з ліку тых, што экспанаваліся на выставе.

Арганізатарамі выставы, прысвечанай Янку Купалу, з'яўляюцца народны фота-кінаклуб «Вясёлка» ГДК, фірмы «Кодак-экспрэс» і «Кока-Кола», а таксама БКМФ — сябра Міжнароднай федэрацыі мастацкай фатаграфіі пад патранажам ЮНЕСКА. Прыемна, што ў такую цяжкую гадзіну выставу падтрымалі сусветна вядомыя фірмы, якія аказалі спонсарскую дапамогу.

**Валянціна БОНДАРАВА.**
г.Магілёў.



